# АРХІПАСТЫРСКАЕ КАЛЯДНАЕ ПАСЛАНЬНЕ
## Дастойнаму Сьвятарству
## і ўсім вернікам Народу Беларускага

*...І нарадзіла Сына Свайго Першароднага, і спавіла Яго, і палажыла Яго ў ясьлі бо ня было ім месца ў гасподзе (Лук, 2–7).*

Хрыстос Нарадзіўся!
Дарагія браты й сёстры!

У вялікай радасьці пасылаем Вам дабраслаўлёнае вітаньне з Найвялікшым Сьвятам Нараджэньня Хрыстовага – Сьвятам суцяшэньня, любові, надзеі на сьвятлейшую будучыню. Бо цяжка было-б жыць чалавеку на зямлі, каб гэтае надзеі ён ня меў. Хрыстос прынёс на зямлю Праўду Божую, Любоў, Міласэрдзе й Літасьць, супраць ілжы, гвалту, зла й чалавеканянавісьці.

Нараджэньне Хрыста „азарыла Сьвет Сьвятлом Розуму“, а сэрцы людзей добрае волі вялікаю радасьцю; і яны за ангеламі пяялі: „Слава на вышынях Богу, і на зямлі мір, між людзей дабраволеньне“. Гэтае Сьвятло Нябеснае – Збаўленная для нас Любоў Божая. Бо-ж Хрыстос абвесьціў, што ўсе людзі й народы роўныя прад Богам, усе яны-браты й сёстры. Дзеля гэтага яны не павінны гнобіць і ненавідзець, а павінны любіць адзін аднаго, памагаць узаемна адзін аднаму, чыніць дабро, а тады будзе радасьць і мір на зямлі. Хрыстос запавядаў роўнасьць братэрства, згоду, і роўна ў любові спатыкаў кожнага, хто ў веры зварачаўся да Яго, і кажнага ашчасьціў Ласкаю Сваёю.

Бог стварыў чалавека подля падабенства Свайго, адухатварыў яго, і даў яму волю кіравацца ў жыцьці сваім розумам. „І не паслаў Бог Сына Свайго ў Сьвет, каб судзіць Сьвет, але каб Сьвет быў выратаваны праз Яго (Ян, 3–17). Хрыстос прыйшоў да нас, як чалавек, каб нам паказаць, што асноваю жыцьця нашага ёсьць любоў, якая злучае нас з Богам, а таму толькі такое жыцьцё дае задаваленьне й запраўдную радасьць. І кажнага году Нараджэньне Хрыстовае прыпамінае нам Ягоную Навуку, кажны год Хрыстос адраджаецца ў сэрцы нашым, і падае надзею на сьвятлейшую будучыню. Запаветы Хрыста – Вера, Надзея, Любоў, ажыцьўляюць чалавека. Таму Сьвята Нараджэньня Хрыста так дарагое й радаснае для нас.

Часта ў жыцьці мы губляемся, трацім надзею, ня ведаем што рабіць, каб жыць добра, прыгожа, мудра, мець супакой і радасьць. Таму вось так добра нам ведаць, што Хрыстос дасканалы Раднік наш. Ён заўсёды ахвотна з любоўю павядзе нас, навучыць, пакажа шлях, парадзіць, абы толькі мы мелі веру й слухалі Ягонага Запавету.

І гэта добра ведаць нам усім, маладым і старым, бо-ж мы маем вялікія заданьні, як прад нашаю Сьв. Царквою, так і прад нашым цярпячым у няволі народам і прад сваёю Радзімаю. І як добра нам ведаць, што народжаны Хрыстос ня толькі стаўся Чалавекам, але ёсьць і Бог Усемагутны; Ён толькі можа даць нам раду й заўсёды гатовы памагчы нам, даць сілу для перамогі ўсякіх цяжкасьцяў. Пра гэта найлепш ведаў сьв. Апостал Павал, які пераэжыў шмат больш за нас няўзгодаў у часе пашырэньня навукі Хрыста. Аднак ён усё перамог і ў радасьці ўсклікнуў: „Усё магу ў Хрысьце, Хто ўзмацняе мяне.“ (Філ.. 4–13). Дзеля таго й нам радасна ведаць, што Хрыстос ня толькі нашая Рада, але й нашая Сіла! І гэтаю сілаю, калі толькі мы будзем годныя яе, і мы ўсё пераможам.

Радасьці нашага жыцьця на зямлі прамінаюць, найпрыгажэйшыя кветкі вянуць, уцехі маладосьці зьнікаюць, жыцьцёвыя сілы слабеюць, замiраюць. І толькі ў Хрысьце, Спасе нашым, мы маем Айца жыцьця вечнага. І толькі праз Яго мы на векі жывыя, подля Слова Яго – „Хто верыць у Сына, мае жыцьцё вечнае“. (Ян,3–36).

Нараджэньне Хрыста адбылося з волі Айца Нябеснага, каб усьведаміць людзей, што не зямное уладарства й сіла яго кіраўнікоў маюць вырашаючае значэньне, а толькі „Уладарства Яго не ад гэтага сьвету“ (Ян, 18–36), „бо Уладарства Божае ўнутры вас ёсьць“ (Лук.,17–21) – гэта значыць у сэрцах людзкіх. Таму Хрыстос у часе сваё кароткае зямное навукі рупна падрыхтоўваў людзей да Уладарства, паказваў дарогу да Яго, абяцаў дапамагчы тым, хто ўверыць у Яго.

Адчынім-жа й мы ў Сьвята Нараджэньня Хрыста свае сэрцы для Яго заклiку, ды йдзем да Уладарства Нябеснага й Жыцьця Вечнага паводля Ягоных Сьвятых Запаветаў.

Адкрыем сэрцы Нованароджанаму Збавіцелю нашаму. Няхай Сьвятло Зоркі Бэтлеэмскае зьяе ў іх, а мы адзінымі вуснамі й адзіным сэрцам з вялікаю любоўю да Яго прамовім: О Хрысьце Божа, Нованароджаны Збаўца наш! Сьвятло праўды, Дабра, Супакою, Ласкі й Міласэрдзя! Ты асьвятляеш і асьвячаеш кожнае стварэньне, кажную душу, якая прыходзіць на сьвет. Асьвяці шляхі й чыны нашыя, каб мы маглі выпаўняць сьветлую волю Тваю, каб мы ўсе працавалі для ўзмацненьня Твайго Уладарства Божага на зямлі, каб зьнікла зло, каб сьветлая радасьць напоўніла сэрцы ўсіх нас, на выгнаньні й нашых Братоў і Сёстраў на Бацькаўшчыне.

Радасна вітаем усіх з гэтым Вялікім Сьвятам Нараджэньня Хрыстовага й з Новым 1976 Годам! Няхай гэты год станецца для Вас крыніцаю духовага супакою, задаваленьня й радасьці.

Ласка й Супакой Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога Айца й Лучнасьць Сьвятога Духа няхай будзе з усімі Вамі, цяпер і заўсёды й павек вякоў. Амін.

З Ласкі Божае
+Пакорны ў Богу Мітрапаліт Андрэй
+Пакорны ў Богу Архіяпіскап Мікалай

Каляды, Лета Божага 1975 – га

---

# ПЁТРА КРЭЧЭЎСКІ



### КРЭЧЭЎСКІ Й НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ЙДЭЯ

*Працяг з папярэдняга нумару.*

М. Харашка

Традыцыі гэта – прадоўжаньне, трываньне, ўстойлівасьць або незьменнасьць мінулага. Аб традыцыях таксама можам гаварыць як аб спадчыне, якая перадаецца старэйшай гэнэрацыяй – малодшай, бацькамі – сваім дзецям, і г.д. Традыцыі маюць ня толькі матэрыяльнае значаньне (ў выпадку перадачы спадчыны сваім нашчадкам), але й духовыя, культурныя, гістарычныя й рэлігійна–царкоўныя вартасьці.

Традыцыі гэта–спадчына цэлых пакаленьняў. „Традыцыі для нас гэта–няпісаная беларуская гісторыя“ казаў Пётра Крэчэўскі. І, запраўды, ў традыцыях перахаваліся й парахоўваюцца неаценныя скарбы нашай мінуўшчыны.

Goethe аб значэньні традыцыяў казаў: „Што вы атрымалі ў спадчыне ад сваіх бацькоў, перахоўвайце й выкарыстоўвайце гэта.“

Пётра Крэчэўскі ўзьнёс беларускія традыцыі да вышыні „Нацыянальнай ідэі“ як вышэйшую вартасьць нашай гістарычнай спадчыны. Цэнтральным пунктам усех традыцый ёсьць 5-я Запаведзь: „Шануй бацьку свайго й матку сваю“. Беларусы з найвялікшай пашанай адносяцца да сваіх бацькоў, а таму й беларуская сямья ў сэнсе хрысьціянскай этыкі стаіць вельмі высака. Дзеці зьвертаюцца да сваіх бацькоў на „ВЫ“, слухаюць іх і гэткія суадносіны двух пакаленьняў усьцяж жывуць ў згодзе, традыцый папярэдніх гэнэрацый, гварантуючы стабільнасьць, нязьменнасьць і высокі маральна-этычны ўзровень беларускай сямы.

Ідэйнымі вытокамі сьветапагляду Пётры Крэчэўскага былі нацыянальныя традыцыі, фальклёр, антычная філязофія Івана Дамаскіна, асабліва спэцыяльныя разьдзелы ягонай працы: „Крыніца веды“, Платона (Рэспубліка й іншыя дыялёгі), Арыстоцеля, і іншых.

Дамінуючай часткай сьветапагляду Пётры Крэчэўскага былі сацыяльна-палітычныя й этэчна-маральныя аспэкты, якія сталіся пазьней асновао ягонай дзейнасьці.

Жывучы ў цэнтры чэскага нацыялізму ў Празе, які быў на працягу некалькіх стагодзьдзяў ў бязупынных войнах з нямецкім імпэрыялізмам і Сьвяшчэннай Рымскай Імпэрыяй (Гусіцкія войны) Пётра Крэчэўскі меў тут найлепшыя магчымасьці для вывучэньня розных нацыянальных праблемаў.

Нацыянальнасьць для П. Крэчэўскага была гістарычнай і палітычнай канцэпцыяй. „Толькі ў межах сувэрэннай сваей дзяржавы магчыма палітычнае, гаспадарчае й культурнае жыцьцё Беларускага народу“, гаварыў Пётра Крэчэўскі.

*Далей будзе.*

---

# Чаму ЧАС?

На запытаньне Спадара Н.Б. ў справе назову газэты Рэдакцыйная Калегія ніжэй падае свае меркаваньні:

Згодна інтэрнацыянальнага слоўніка Webster-а час гэта перыяд трываньня, інтэрвал калі на працягу якога нешта робіцца, існуе, альбо знаходзіцца ў працэсе адносных зьменаў. Час ня ёсьць аб'ектыўнай рэальнасьцяй, а ёсьць канцэпцыяй створанай чалавекам для больш эфэктыўнага зарганізаваньня ягонай дзейнасьці.

Час таксама маець сымвалічнае значэньне; ён перахоўвае несьмяротныя вартасьці нашай гістарычнай спадчыны й адначасна сучаснасьці.

Час ёсьць спадарожнікам жыцьця кажнага чалавека ад ягонага народжаньня аж да самой сьмерці; час нарэшце ўпісвае на свае бачынкі гісторыю кажнага народу й гісторыю ўсіх людзкіх цывілізацыяў.

Час ёсьць акумуляцыйным фактарам: фактарам узросту, цягласьці й трываньня. Народы, якія ня маюць сваёй гісторыі, ня маюць сваёй будучыні.

Рэдакцыя

# АНТЫТЭЗА КАМУНІЗМУ

У нямецкім часапісе „Der Spiegel" 29-га верасьня г.г. былі зьмешчаны выняткі з кнігі Андрэя Сахарава „О СТРАНЕ Й МІРЕ" („АБ КРАІНЕ Й СУСЬВЕТУ").

Андрэй Сахараў у сваёй кнізе спачатку падае прычыны занепаду савецкай эканомікі, а пазьней падае й праект рэформаў пры дастасаваньні каторых можна былоб палепшыць гаспадарчы стан Савецкай краіны Перадусім Андрэй Сахараў называе СССР „таталітарна-паліцыйнай" краінай, гдзе пануюць тэрор, беззаконьне, страх, несправядлівасьць, і ашуканства, а таму Маскве ў нічым і нельга верыць.

Паводле А. Сахарава, да цяперашняга эканамічнага стану прычыніліся абыякавасьць савецкага работніка да працы (ціхі байкот), і вельмі нізкая аплата работніка, а страйкаваць забаронена. Месячная пэнсыя работніка выносіць максімум 120 рублёў. Кожны працуючы маець два тыдні вакацыяў на год. Кожны год партыя вызначае некаторыя суботы й нядзелі „рабочымі". У гэтыя дні людзі павінны працаваць дарма, а іхнія заробкі йдуць на падтрымку замежных камуністычных партыяў.

Будаўніцтва ў СССР жылых дамоў, пастаўлена вельмі блага. Новыя дамы выкончваюцца з вялікімі дэфэктамі й не надаюцца да карыстаньня, а таму й адчуваецца вялікі недахоп кватэраў. Меншыя гарады зусім ня маюць каналізацыі. Места, асабліва меньшыя, блага забязпечваюцца прадуктамі.

Стан асьветы вельмі нізкі, асабліва ў пачатковых школах. Абслуга лекарская слабая. У шпіталях меньшых местаў хворыя часта ляжаць у карыдорах. Лекаў блізу няма. Навет шпіталі вялікіх местаў не маюць новых лекаў, а імпорт з іншых замежных краінаў забаронены. Вельмі многа ўжываецца алкаголю. Пьюць старыя й маладыя, а праз гэта пашыраецца бандытызм.

Пасьля крытыкі савецкай сыстэмы Сахараў прапануе правесьці поўную гаспадарчую рэформу, каторая магла-б палепшыць эканоміку СССР. Перадусім трэба зямлю перадаць ў прыватнае карыстаньне селянам, і даць ім дапамогу матэрыяльную для разьвіцьця сваёй гаспадаркі. Усі гатэлі, рэстараны, меньшыя прадпрыемствы й фабрыкі, за выняткам цяжкай прамысловасьці, павінны перайці ў прыватныя рукі. Ліквідацыя „псіхушак" і канцлягероў, амністыя для ўсіх зьняволеных. Дазволіць рабочым дамагацца палепшаньня абставін працы ( ніводзін работнік Захаду ніколі не пагадзіўсяб працаваць у савецкіх умовінах). Кожнаму чалавеку даць права на свабоду думкі й перакананьня, дазволіць кожнаму жыць там, гдзе ён хоча, дазволіць на свабодны выязд замежы СССР. Даць права нацыянальным рэспублікам на самастойнае жыцьцё. Замяніць аднапартыйную сыстэму на многапартыйную й даць магчымасьць народу кантраляваць урад.

Вядома што рэформы якія прапануе Сахараў ніколі не будуць прынятыя камуністамі; сваёй сыстэмы яны ня зьменяць, а таму й людзі савецкія застануцца нявольнікамі й далей будуць жыць у нэндзы й голадзе.

Кожны дзень, праз радыё, урад стараецца пераканаць людзей, што толькі ў СССР, яны маюць найбольшую свабоду, найлепшыя й найбольш справядлівыя законы й шчасьлівае жыцьцё. Такія радыёперадачы Сахараў называе „дрэсіроўкай" якія даводзяць людзей да абсалютнай апатыі. Людзі дасканала разумеюць увесь фальш савецкай прапаганды, але каб жыць, маўчаць і выконваюць усі загады партыі.

Л. Загорскі

# Нацыянальныя Цэнтры Вялікалітоўскія (Беларускія)

Цэнтрам географным, значыцца цэнтрам нашае зямлі ё Смаленск. Цэнтрамі палітычнымі, значыць сталіцамі, былі розныя месты нашыя залежна ад часу.

У васобных гаспадарствах вялікалітоаскіх былі наступныя сталіцы: *Пскоў* у рэспубліцы Вялікі Пскоў; *Полацак* у Вялікім Княстве Полацкім; *Смаленск* у Вялікім Княстве Смаленскім; *Чарнегаў* у Вялікім Княстве Северскім; *Тураў* у Княстве Тураўска-Пінскім; *Айруч* (званўся „*Уручы*" у старшым часе) у Княстве Дзераўскім; *Разань* у Княстве Вялікім Разанскім; *Цьвер* у Вялікім Княстве Цьверскім.

У Задзіночаным Гаспадарстве Вялікалітоўскім, якім было Вялікае Княства Літоўскае, наўперш ладны час сталіцаю быў Наўгарадок*, а пасьлей увесь час аж да 1795 г. (захоп Масквою нашага незалежнага гаспадарства) была Вільня. У Радзкай** Рэспубліцы Вялікалітоўскай (Беларускай) сталіцаб стаў Менск.

У „Нарысах Гісторыі Вялікалітвы-Беларусі" будзе шырака сказана праз (пра) менаваныя княствы й сталіцы іхнія.

Апрача таго, праз мову Пскоўшчыны напісана ў вартыкуле *Пскоўскі дыялект* Яна Станкевіча (*Запісы* мюнхенскага выданьня, кн. 1). Праз мову прасьцягу*** бытага**** Вялікага Княства Разанскага ладне напісана ў монаграфе Др. Яна Станкевіча *Савецкае хвальшаваньне гісторыі Беларусі* (бб 21–87); там троху ё праз прасьцяг і этнографная асаблівасьці патомкаў Разанцаў. Праз мову таго на прасьцягу а таксама прасьцягу паўночна-северскага ладне кажацца ў варт. Яна Станкевіча *Аканьне – балцкая рыса ў мове вялікалітоўскай* у зборніку на чэсьць проф. Шэвялёва, 1971 г.

Зацемлю, што ў літаратуры расійскай мовы бытага прасьцягу разанскага (яна цяпер зрусыфікавана, але засталося ў ёй шмат рысаў вялікалітоўскіх) завуць нарэччам „южнавелікорускім" – няправільна й тэндэнчна.

Я. С.

* Наўгарадок – Наваградак
** Радзкі – Савецкі
*** прасьцяг – прастор
**** быты – быўшы

У наступным нумару „ЧАСУ" пачне друкавацца *Нарыс гісторыі Вялікалітвы–Беларусі* Дра. Я. Станкевіча.

# „Сацыялістычнае Спаборніцтва"

Працяг з 4-й бачынкі

зію" лягчэй, як потым змусіць рабочы люд да працы, як то кажуць – на дурніцу, гэта Ленін ведаў.

Цікава, як Ленін ацэньваў „рабочы клас", ад імя якога й нібы ў абарону якога ён выступаў: для яго гэта - гультаі, дурні, бэстыі; а пад дробнабуржуазным агаізмам і прывычкамі тымі „буржуазнымі" ён, відавочна, разумеў схільнасьць да ўласьніцтва й, магчыма, рэлігійнасьці. Вось гэта атэстацыя запраўды бэстыяльская, брудная й, бязумоўна, няпраўдзівая. Ленін ня быў наіўным ані дурным, але й ня так разумным, як хітра-ілжывы, а чалавечае сумленьне ў ім адсутнічала. Пручыся да ўлады, ён добра ўсьведамляў сабе, што ўстанаўляе не дыктатуру пралетарыяту, а дыктатуру *над пралетарыятам*, што работнік прамысловы й селянін, аголеныя дарэшты й пазбаўленыя волі й магчымасьці самім уладкоўваць сваё жыцьцё, ня будуць мець стымулу да працы, і што тыя „аб'ектыўныя ўмовы сацыялістычнага ладу", як ён казаў, –ня будуць спрыяльнымі ні для рабочага, ні для селяніна. Таму, каб умацаваць уладу сваю бальшавіцкую, пачаў дзеяць з хітрасьцю, ілжою і ўсьцяж гвалтам. І, як прынадай, усьцяж цешыў людзей, тою расьпіснаю камуністычнаю торбаю, у якой будзе „кожнаму паводля патрэбы". Да прыкладу: Ленінская праграма вымагала калгаснага землякарыстаньня, але ён абвесьціў падзел зямлі буйнейшых землаўласьнікаў, бо ведаў, што калі-б адразу ўзяўся за калгасы, у той-жа час яго спаролі-б з крамлёўскага седала. Работніка-ж прамысловага ён пачаў абхаджаць, як абхаджаюць часам каня на вольнай пашы, каб залажыць яму аброць на галаву й закілзаць, а тады ўжо садзіцца вярхом.

„Пачаўшыся з камуністычных суботнікаў у час грамдзянскай вайны ў 1919 годзе, - пішуць Калесьнік з Лычом – сацыялістычнае спаборніцтва ўзбагацілася такімі формамі, як ударныя брыгады й стаханаўскі рух у пэрыяд першых пяцігодак, самаадданыя гвардзейцы працы ў Вялікую Айчынную вайну, барацьба за дасягненьне найвышэйшай прадукцыйнасьці працы ў пасьляваенных гады, рух за камуністычныя адносіны да працы ў нашы дні". І ўсё гэта рабілася пад ціскам агітпропу й няспынным партыйным прымусам. І ня йшло яно так гладка, як паказваюць Калесьнік з Лычом: „Архіпелаг Гулаг" не паўстаў ні з таго ні з сяго, і насельнікі яго ня тыя „праклятыя капіталісты", а сам запраўды працоўны люд. І ўсьцяж прыймаліся зьверхнімі партыйнымі ўрадавымі ўстановамі прыгонныя пастановы *ўзмацняць і пашыраць* тое „спаборніцтва".

Паводля Калесьніка й Лыча выглядала-б, што БССР асабліва рвецца да таго „сацыялістычнага спаборніцтва".

*З – кі*

*Працяг будзе ў наступным нумары.*

ВЯСЕЛЫХ КАЛЯДАЎ

*і*

ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ

*ўсім падпішчыкам, знаёмым і ўсім беларусам*

*жадае*

*РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ „ЧАС"*

ДР. ВІТАЎТА ТУМАША

*НАВУКОВАГА ДАСЬЛЕДНІКА ЭПОХІ БЕЛАРУСКАГА РЭНАСАНСУ–СКАРЫНІАДЫ, ПІСЬМЕНЬНІКА, ЖУРНАЛІСТАГА, аўтара шматлікіх навуковых артыкулаў і Галоўнага Рэдактара „Запісаў" вітае з 65-м годзьдзем Ягонага жыцьця й шчыра жадае Дастойнаму Юбіляру многа ўдачаў ў Ягонай далейшай працы.*

*Рэдакцыя газэты „ЧАС"*

Прафэсара УЛАДЗІМІРА СЯДУРУ

*БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНЬНІКА Й ВЯДОМАГА НАВУКОЎЦА нагароджанага некулькімі ганаровымі дактаратамі за ВЫДАТНЫЯ АСЯГНЕНЬНІ Ў ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ Й НАВУКІ вітае з 65-м годзьдзем Ягонага жыцьця й 45-м лецьцем навуковай працы й шчыра жадае Дастойнаму Юбіляру даўгога жыцьця й многа посьпехаў ў Ягонай далейшай працы*

Рэдакцыя газэты „ЧАС"

*Дарагія Браты й Сёстры!*

*Дзеля таго, што не змагу адказаць усім асабіста на Калядныя й Навагоднія віншаваньні, раблю гэта праз газэту „ЧАС", ды шчыра дзякую ўсім хто віншаваў мяне, а з свайго боку жадаю Вам ды ўсім Беларусам шчасьця ў Новым Годзе.*

*Няхай з Божае ласкі Вефлеемская Зорка асьвятляе шлях да Вольнае Беларусі!*

*Каляды, 1975 г.*
*Таронта, Канада*

*Хрыстос Нарадзіўся!!*
*Архіяпіскап Мікалай*

 

# Kissinger must go

## DERWINSKI CALLS FOR KISSINGER'S RESIGNATION

A deepening distrust of the Secretary of State Henry Kissinger's policy of detente has been growing for some time. Today, Congress generally is opposed to this policy. Most of the 45 million 'ethnic Americans' have been alienated by Dr. Kissinger when he was reported as telling Brezhnev that the annual observance of the Captive Nations Week in the U.S. is a mere folklore. Except for one instance of as yet untested Sinai accord, Kissinger's policy has been a complete failure. He has failed in South East Asia, in Cyprus and in Turkey, he has given the Soviets much in return for nothing with his detente policy, he has neglected South America, catered to Castro Cuba, and he has deliberetely misled the Congress about the situation in Angola so as 'not to endanger detente'. Kissinger still fails to realize that the Soviets have no interest in 'easing world tensions' and that they are using him and other gullible Westerners for their own purposes.

Congressman Edward Derwinski, a second-ranking Republican of the House International Relations Committee and Chairman of the National Republican Heritage Groups Council, has voiced publicly the views of most of us when he has called for the resignation of Dr. Kissinger.

*Якуб Колас*

## ЖУРАЎЛІНЫ ВЫРАЙ

*Крылаты вандраўнік, стары журавель,*
*Сяброў у дарогу тарапіць, —*
*Пад холадам моўкнуць прасторы зямель,*
*І стынуць утульныя топі.*

*З патайных зацішкаў, з бязьлюдных балот*
*Зьлятаюцца вольныя птахі.*
*На поўдзень, у вырай, імкне іх палёт*
*Пад ясным бяскроквавым дахам.*

*Зьвісае над імі бяздонны абшар,*
*Дзе сьвецяцца вечныя зоры,*
*Пад імі гуляе, бушуе пажар,*
*У цемры сьвідруе пячоры.*

*У блеску крывавым руіны тырчаць,*
*Як чорныя цені-манахі.*
*Крылатыя госьці пужліва крычаць,*
*Трывожацца вольныя птахі.*

*—Эй, чуеш? Спыніся, спыніся стары!*
*Ці тою вядзеш ты дарогай?*
*Глядзі — агнявыя там круцяць віры,*
*Іскрыстым падняўшыся стогам.*

*Ніколі на нашай дарозе раней*
*Такой ня бывала праявы,*
*І ночы, глянь, сталі цямней і страшней,*
*Патоптаны нівы і травы.*

*Жахаюць зарніцы агнёў на зямлі,*
*І сыплюцца дрэвы пад громам,*
*Бяз голек, як трупы, маячаць камлі, —*
*Спыніся, бо край невядомы.*

*—Ня бойцеся птахі! Наперад за мной! —*
*Стары журавель ім гукае:*
*—Вяду вас пуцінаю вернай адной,*
*Што Млечны мне шлях асьвятляе.*



Якуб Колас

*Ня мы, гэта людзі з дарогі сышлі,*
*Ня мы, а яны заблудзілі.*
*Разбойніку цесна заўжды на зямлі —*
*Старыя спрадвечныя былі.*

*Наперад, наперад у вырай, за мной,*
*Ды крыльлі ямчэй разгарнеце!*
*Свой кут прывітаем мы новай вясной —*
*Для вольных і воля на сьвеце.*

*І далей на поўдзень ляцяць жураўлі,*
*Над імі калышуцца зоры,*
*Пад імі — пажары, пакуты зямлі,*
*І гора, вялікае гора.*





# Лісты ў Рэдакцыю

Глыбока Паважаны Спадар Доктар!

Перад усім дазвольце выразіць Вам маё асабістае глыбокае прызнаньне па поваду выхаду ў сьвет першага нумару „Беларускага ЧАСУ". Запраўды, пад кажным поглядам як ідэйным так і эстэтычным, газэта стаіць на высокім узроўні й ўсе Беларусы павінны гардзіцца гэтым. Я думаю, што Вы будзеце й далей прадоўжваць гэтую справу. Хай Усемагутны Бог дапаможа Вам ў Вашай працы! Я глыбока пераконаны ў тым, што ўсе Беларусы з Мічыгану прыйдуць Вам з дапамогаю, як маральнаю так і фінансаваю.

Прыйміце запэўненьні праўдзівай пашаны да Вас.

Маг. Васіль Плескач

Вельмі Паважаны Спадар Рэдактар!

Вітаю! Гэткая газэта, як „Беларускі ЧАС" нам вельмі патрэбна! Яна, Газэта „ЧАС", узмацоўвае нашыя спадзяваньні сягодня й пашырае нашыя грамадзка-палітычныя пэрспэктывы на будучыню. Шчасьці Божа!

Др. Б. Рагуля

Паважаны Доктару Расьціславе Гарошка!

Шчыра вітаю выданьне Вашэцям „ЧАСУ". Зь вялізарнае бальшыні спраў народу нашага адныя застаюцца вонках увагі нашага друку, другім удзяляе ён мала свае ўвагі. Спадзяюся, што Ваша газэта імі займецца. Зычу Вам дасьпехаў. Працуйце й іншых гукайце да працы! Дарога Вашая ня будзе ўслана кветкамі, але, як вытрываеце на ёй, будзеце шчасьлівы з рэзультатаў свае дзеяльнасьці. З павагаю,

Др. Я. Станкевіч

Вельмі Паважаны Спадар Рэдактар!

Выхад новае беларускае газэты „Беларускі ЧАС" трэба шчыра павітаць. Асаблівую надзею трэба пакладаць на частку газэты ў ангельскай мове, бо яна можа стацца добрым інфарматарам аб беларускіх праблемах для тых, хто цікавіцца імі, але ня можа карыстацца з выходзячых газэтаў у нашай мове. Першы нумар зарэпрэзантаваў сябе добра, як з боку зьместу, як таксама з боку тэхнічнага афармленьня. Для выдаўца Д-ра Расьціслава Гарошкі газэта „ЧАС" зьяўляецца новым асягненьнем на ніве беларускае нацыянальнае працы, калі ўзяць пад ўвагу тое, што ён раней практычна з выдавецкай дзейнасьцю не спатыкаўся.

В. К.

Высокашаноўны Выдавец газэты, Др. Гарошка!

Віншую з выхадам даўночаканае газэты ў ангельскай і беларускай мовах. Патрэба ў ёй нагэтулькі насьпела, што зьяўленьне першага нумара было падобна зьяўленьню нацыянальнага вяшчуна з заклікам да новага гартаваньня сілаў змаганьня за сьветлае будучае нашае паняволенае бацькаўшчыны. Высака трымайце сьцяг, некалі ўзьняты ямчэ „Нашай Нівай" і праз гады нядолі высака пранесены лепшымі сынамі-змагарамі за волю. Цісну руку і зычу ўдачаў. Прашу лічыць мяне падпісчыкам на Вашу газэту. Дзякуй.

З глыбокай пашанай, Ваш
Др. В. Седуро

Enter your subsctiption to
**THE BYELORUSSIAN TIMES**
Fill out subscription form below and mail to the address indicated
Rates: $5.00 U.S. per year

**THE BYELORUSSIAN TIMES**
P.O. Box 141, Whitestone
New York 11357, U.S.A.

Please enter a subscription for:

Name (please print)

Address Apt./Rm.

City

State/Country ZIP/Postal Code

Subscription $5.00 U.S. per year
Make checks/money orders payable to THE BYELORUSSIAN TIMES

# Угодкі Слуцкага Паўстаньня

## Ў ДЭТРОЙЦЕ

7-га сьнежня 1975-га г. Аддзел БАЗА ў Дэтроіт Міч. урачыста адзначыў угодкі Слуцкага Збройнага Чыну ў салі Парафіі Св. Духа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Іст Дэтроіт.

З гэтай нагоды Яго Высокапрэасьвяшчэнства Архіяпіскап Мікалай у сваім казаньні ўспомніў Дзень Лістапада й заклікаў усіх прысутных ахвярна працаваць на ніве беларускай справы й прдоўжваць змаганьне тых паўстанцаў, якія ахвяравалі сваё жыцьцё каб „не памерла” Бацькаўшчына Беларусь.

Пасьля Богаслужбы Уладыка Мікалай адслужыў Паніхіду за усіх Гэрояў, якія ў трагічныя хвіліны нашай гісторыі да апошняга ўздыханьня свайго жыцьця не здалі сваіх штандараў.

У часе Богаслужбы й Паніхіды вельмі прыгожа сьпеваў царкоўны хор: цудоўныя рэлігійныя й жалобныя напевы гарманізавалі з павагаю мамэнту. Па заканчэньні Паніхіды ўсе прысутныя сабраліся ў царкоўнай салі, каб належна ўшанаваць гэтую гадавіну. Старшыня беларускіх Вэтэранаў Сп. Др. Ю. Сажыц у сваёй прамове на тэму Слуцкага Паўстаньня падкрэсьліў яго значэньне ў гісторыі беларускага змаганьня й ягоны вялікі маральны й выхаваўчы ўплыў на пакаленьне якое, узгадаванае ў традыцыі вечна памятнага Лістапада, прыйшло на зьмену тым, што аддалі сваё жыцьцё за сьвятыя ідэалы Беларусі.

Лістападовыя лісьцё пкрыла раскіданыя магілы тысячаў вядомых і невядомых Гэрояў-Беларусаў, а памяць аб іх вечна будзе жыць у нашых сэрцах і думках, у жалобных напевах Паніхідаў і ў сэрцах тых, што сягодня схіляюць галовы перад вялікім чынам Барацьбітоў за волю свайго народу.

В. П.

## Ў НЮ ЕРКУ

23-га лістапада г.г. Беларусы Ню Ерку урачыста адзначылі ўгодкі Слуцкага Паўстаньня.

Пасьля Літургіі й Паніхіды ў Саборы Св. Кірылы Тураўскага Прат. а. Васіль Кэндыш сказаў глыбока прачуленае слова на тэму змаганьня Случчакоў за вызваленьне ўсяго беларускага народу ды выказаў веру, што з Божай дапамогай беларускі Народ пераможа ўсіх акупантаў, ды потым будзе гаспадаром на сваёй зямельцы.

Пасьля кароткага перапынку, ў царкоўнай салі адбылася урачыстая Акадэмія прысьвечаная трагічным падзеям вызваленчых войнаў 1920-1922 гадоў.

Рэфэрат на тэму Слуцкага Паўстаньня прачытаў Сп. Маг. Мікола Кунцэвіч, Старшыня Акруговай Управы БАЗА ў Ню Ерку. У сваім дакладзе Сп. Кунцэвіч нарысаваў абраз змаганьня Случчакоў з ворагам і падаў прычыны чаму Слуцкае Паўстаньне ня было закончана перамогаю.

Пасьля дакладаў вельмі прыгожа сьпеваў царкоўны хор пад кіраўніцтвам Сп. М. Тулейкі. Рэшта акадэміі была выканана вучнямі суботняй беларускай школы.

## Ў ТАРОТО

Ужо ўвайшло ў замацаваны звычай, што раскіданыя па ўсім сьвеце беларусы з году ў год адзначаюць 27-га Лістапада, ня толькі як Слуцкі Бой, але як дзень Гэрояў Беларусі; ў гэты векапомны дзень мы схіляем свае галовы ў пашане вялікіх дзеяў слаўных Случчакоў-гэрояў, якія памерлі ў бітвах за свой народ.

У гэтым годзе, згодна дамоўленасьці з Б.Н.А., урачыстая акадэмія адбылася ў Торонто 30-га лістапада 1975-га г. ў храме Беларускай Парафіі Сьв. Ефрасіньні Полацкай, Грэцкай Праваслаўнай Царквы.

Паніхіды па загінуўшых змагарох за Незалежную Беларусь служылі: Вельмі Дастойны Уладыка Мікалай ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ, а а. Вялікі ў царкве Беларускай Парафіі Сьв. Ефрасіньні Полацкай, Грэцкай Праваслаўнай Царквы.

М. Грыбок

Слова Ўладыкі Мікалая з нагоды дня Гэрояў друкуецца ніжэй.

### Пропаведзь на Нядзелю 30 лістапада, 1975 г., у Таронце й 7 сьнежня, 1975 г., у Дэтройце

Мінаець год за годам у вечнасьць, пакідаючы адбіткі сьлядоў гістарычных падзеяў, – а між імі лістапад за лістападам. Штогод пакрываецца зямелька залатою дзяружкай лісьцяў, і, гэтак ахоўваюцца не пазначаныя ў лесе, пад кустом, пры дарозе ці ў чыстым полі бязьлічоныя магілы бязіменных змагароў, а сьцюдзёны вецер пяе ім мэлёдыю малітвы на супакой.

І вось, адзін год аставіў глыбака выраты сьлед для гісторыі, калі беларускі народ выступіў супраць бязбожнае навалы ў абароне сваіх сьвятых агульна-людзкіх правоў. І ў гэты дзень, год у год, 27 Лістапада, уваскрасаюць Гэрої Беларусі, выходзяць з магілаў, і пяюць нам гімн самапасьвяты. Якраз яны прыпамінаюць нам і чынам сваім выказваюць Хрыстовы запавет: „ніхто ня мае большае любві за тую, як хто жыцьцё сваё аддасьць за другаў сваіх” (Ян 15:13).

Аддаць сваё жыцьцё за другаў сваіх ёсьць вялікай ахвярай і памірацць за другаў ёсьць згоднае з навукай Хрыста й законам Божым.

Згодна свайёй натуры й закону Божага маці, маючы вялікую любоў да свайго дзіцяці, ахвяроўвае сваё жыцьцё каб жыло еййае дзіця. Нават страшна падумаць, якою мераю ёсьць магчымым зьмерыць тую веліч любві і ахвярнасьці беларускіх жанчын: жонаў і сёстраў, якія пасылаючы ў бой за свабоду Беларусі сваіх сыноў, мужоў і братоў, вышылі на штандарах вечнапомныя словы: „Вы йдзеце паміраць, каб жыла Бацькаўшчына”. Беларускія жанчыны ахвяравалі больш чым жыцьцё сваё й гэтай веліччы няма меры.

Толькі веруючыя ў Бога й любячыя свой народ асобы здольныя да самапасьвяты й самаадданасьці за сваю радзіму й сваю бацькаўшчыну. Сам Бог загадвае нам: „Ня мсьціся й ня мей злосьці на сыноў народу свайго” (3 М. 19:18).

Той хто любіць свой народ, заўжды гатовы абараняць народ свой, і ён паважае іншыя народы, бо: „тут няма розьніцы між Юдэям і Грэкам” (Рым. 10:12). Бог аднолькавы да ўсіх народаў і нікому ня дадзена права панаваць над імі.

І мы, дарагія браты й сёстры, схілім галовы свае прад пасадам Бога Ўсевышняга ды падлічым, кажны з нас асобна, сваё сумленьне й параўнаем свой уклад для народу свайго з самаахвярай і самапасьвятай тых нашых братоў і сёстраў, якія загінулі на полі бою, замучаныя ў турмах, голадам замораныя на ссылцы марознай. Яны аддалі жыцьцё сваё, каб жыла Бацькаўшчына нашая – сьвятая Беларусь. Прыпомні друга свайго йдучага побач цябе, якога куля пранізала й ты чуў ягоны стогн. Прыпомні друга свайго, якога бязбожнікі ўкінулі ў тваю камэру ўжо пабітага й акрываўленага й ён еньчыў ад болю. Прыпомні друга свайго, які голадам замораны сканаў на тваіх вачох пры цяжкой непасільнай працы на марознай ссылцы Поўначы.

Яшчэ адзін год праходзіць: мінуў лістапад і зноў залатое лісьцё пакрыла магілы змагароў. А мы, тут сабраўшыся ў сьвятым храме Божым, урачыста ўзьнясём свае малітвы да Ўсемагутнага Бога за іхныя душы, каб Ён асяліў іх там, дзе праведнікі супачываюць. Амін.

Архіяпіскап Мікалай



*Дзеці, ўдзельнікі Акадэміі Слуцкага Паўстаньня ў Ню Ерку. Ніна Заморская, Павал Рамано, Францішак Бартуль, Мікола Рамано, і Таня Заморская*

# Дзень Удзячнасьці ў Кліўлендзе

Парафія Жыравіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе штогод ад заснаваньня парафіі адзначае „Дзень Удзячнасьці”. У гэтым годзе, каб сьвяткаваньне было больш урачыстым, пастаноўлена было адзначыць „Дзень Удзячнасьці” у нядзелю 23–га лістапада.

А гадзіне 10–й раніцы ў Катэдральным Саборы Жыравіцкае Божае Маці была адпраўлена сьв. Літургія й Малебен удзячнасьці, які папярэджаны быў казаньнем Уладыкі Мітрапаліта Андрэя на тэму дня. Уладыка сказаў: „Амэрыканскія традыцыі ладжаньня „Дня Удзячнасьці”, запачаткаваныя ангельскімі Пільгрымамі ў 1620 – 21 гадох моцна напамінаюць нам радасныя навіны аднаўленьня й разбудовы нашай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на Чужыне. Адначасна й прыпамінаюцца нам у гэты слаўны дзень „Удзячнасьці” і сумныя навіны – гэта даўгі пэрыяд рэлігійных войнаў у Вялікім Княстве Літоўскім, у выніку якіх паўстаў занепад Наваградзкай Мітраполіі й блізу поўная ліквідацыя Праваслаўнай Царквы й паслабленьне моцы, а пасьля й поўны занепад, нашае старое радзімы Вялікага Княства Літоўскага. Таму, мае дарагія парафіяне, будзьце моцнымі ў сваёй веры й узгадоўвайце ў веры бацькоў дзяцей сваіх, а Ўсемагутны Бог дапаможа Вам.”

Пасьля Малебна ўсе перайшлі ў царкоўную салю, каб спажыць прыгатаваны абед з традыцыйнымі амэрыканскімі патравамі.